№ 3(8), сакавік 2005

# MAkAsIN

## АД РЭДАКЦЫІ

Прывітаньне!

Кожны раз, сядаючы пісаць слова ад рэдакцыі шкадуем, што гэта не эпілог, які заўсёды чытаюць апошнім, а пачатак газэты. Значыць ён павінен выклікаць у чытача жаданьне да чытаньня газэты. Вядома, што шмат людзей пачынаюць чытаць газэты с канца, ёсьць нават нейкія навуковыя таму тлумачэньні, але пакуль большасьць чытае ад першай старонкі – трэба пачынаць пазытыўна і радасна. Таму звычайна слова ад рэдакцыі ўтрымлівае віншаваньні з усялякімі сьвятамі.

Сеньняшні нумар не выключэньне. Нават больш таго! Ён выходзіць напярэдадні вялікага сьвята – Дня Волі (хто не ведае 25 сакавіка, але пра гэта чытайце ў нумары). Гэта тое сьвята якое нельга забываць, бо ў гэты дзень мы – Беларусы сталі вольныя і незалежныя. Дзень, які павінен выклікаць толькі радасныя пачуцьці. Але так гістарычна склалася, што ня здолелі мы ўтрымаць тое, што было дадзена нам лёсам і таму маем зараз тое, што маем, а сьвята замест радасьці выклікае сум. Хочацца верыць, што так будзе не заўсёды і радасьць вялікага дню зноў прыйдзе ў нашы сэрцы.

Мужнасьці Вам, Беларусы! Сьмеласьці і моцы! І хай вечна жыве Беларусь!

Са сьвятам!!!

## ХВАРОБА, ЯКАЯ НЕ АДПУСКАЕ

*Зноў ды зноў вяртаюся да тэмы Радзімы...*

стар.3

## ФЛЯУСЫ КАК ОНИ ЕСТЬ

*Есть в Новополоцке группа «Фляус и Кляйн»...*

стар.4

## ДЕНЬ СВЯТОГО ПАТРИКА

*17 марта ежегодно отмечается День Святого Патрика – национальный ирландский праздник, ставший популярным во всем мире.*

стар.5



# INFO

•Трое польскіх журналістаў былі затрыманы ў нядзелю на тэрыторыі Беларусі.

•У Міністэрстве культуры разглядаецца пытаньне аб увядзеньні 75-% квоты беларускай музыкі ня толькі на радыёстанцыях, але і ў начных клюбах і дыскатэках.

•Польшча і Украіна не зьбіраюцца супрацоўнічаць зь беларускім «Алмазам»

•У Менску працягваюцца акцыі з патрабаваньнем вызваліць палітвязьняў. У суботу і нядзелю людзі выходзілі на Кастрычніцкую плошчу з партэтамі былога міністра і дыплямата Міхаіла Марыніча, лідараў прадпрымальніцкага руху Валерыя Леванеўскага, Аляксандра Васільева і Анатоля Шумчанка.

•У Кыргыстане прыхільнікі апазыцыйных палітычных партый захапілі штурмам будынак абладміністрацыі Ошскай вобласьці. Гэта ўжо восьмая дзяржаўная ўстанова, якая трапіла пад кантроль незадаволеных вынікамі парлямэнцкіх выбараў апазыцыянэраў.

•Старэйшы сын Аляксандра Лукашэнка Віктар стаў намесьнікам гендырэктара ЗАТ «Беларуская сецьтэлекамунікацый». ЗАТ «БеСТ» зьяўляецца трэцім аператарам сотавай сувязі стандарта.

•Неанацысты напалі на сталічны клюб. У выніку сутычкі пацярпелі два чалавекі – з пранікаючымі нажавымі раненьнямі яны былі дастаўлены ў бальніцу.

•У гэтым годзе ва ўсіх медыцынскіх вузах упершыню разьмяркоўваюць студэнтаў-платнікаў.

•Кіраўнік Службы Бяспекі Украіны Аляксандар Турчынаў не выключае магчымасьці прыцягненьня экспрэзідэнта Леаніда Кучмы да крымінальнай адказнасьці.

•14 сакавіка прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб правядзеньні атэстацыі кіруючых работнікаў дзяржаўных органаў, пасады якіх узгадаены ў кадравым рыестры кіраўніка дзяржавы. З легкай рукі прэзідэнта сдаваць іспыты будуць супрацоўнікі міністэрстваў і ведамстваў, а таксама чыноўнікі выканкамаў.

•Сябры расейскай грамадзкай арганізацыі "Комитет-2008" Ірына Хакамада і Барыс Немцоў і журналіст Павел Шэрымет зьвярнуліcь з адкрытым лістом да Аляксандра Лукашэнкі. Яны патрабуюць вызваліць палітвязьня Міхаіла Марыніча і аказаць яму кваліфікаваную медыцынскую дапамогу.

•Складскія запасы менскіх прадпрыемстваў працягваюць павялічвацца.



# ГІСТОРЫЯ ЗА ГАДЗІНУ

Нягледзячы на тое, што пра гістарычныя мініяцюры «Полацкага зьвязу» пісалі шмат пасьля прэмьеры ў Полацкім ГДК, нельга абмінуць іх візыт у ПДУ 16 сакавіка. Унівэрсітэт не гудзеў напярэдадні прэмьеры ў сваіх родных сьценах, але заля была амаль поўная. І сапраўды: для тых, хто хоць колькі адчувае сябе неабыякавым да гісторыі Беларусі, мініяцюры – гэта здарэньне. Але як сьцвярджаюць бывалыя, эмацыйны колер у ГДК быў значна мацнейшым. На тое ж і прэмьера! Да таго ж, тыя, хто прысутнічалі у ПДУ, ужо чулі пра выступленьне і прымалі яго значна спакайней. Тым не менш, мініяцюры гледачоў сапраўды ўразілі. І гэта не толькі сродак паданьня, але і сама ідэя прыпаднесьці гісторыю Беларусі, нашу з Вамі гісторыю, у выглядзе замалёвак адной падзеі. Посьпехаў Вам, «Полацкі зьвяз»!

# С ПРАЗДНИЧКОМ!

В смысле с нововведенным официальным (в стенах ПГУ разумеется) праздником Вас–днем Первака! Мало в нашей жизни светлых дней, стало одним больше, ведь праздник первокурсников–это праздник и второкурсников и т. д. по списку (включая 5-й курс). С этого года грандиозность в универе в моде. Все время что–то новое пробуем и ... как обычно первый блин комом:). Полнейший хаос на сцене и бессвязные выступления теперь уже настоящих студентов. Н–да, над официальной частью «Дня Первака» поработать не мешало бы. Хотя, если это только для галочки...

Во всяком случае, с прошедшим Вас, первокурсники!

# ДИСТАНЦИОННОЕ ОБУЧЕНИЕ

Если Вы считаете, что программа университета – это не все, на что Вы способны, то вполне можете попробовать себя в дистанционном обучении. Вам присылают задания, Вы их выполняете, получаешь оценки и в конце-концов – диплом об окончании курсов (степень, которую Вы получите, зависит от содержания и длительности курсов). Единственное условие–элементарное знание компьютера и доступ к интернету. ***www.ehu–international.org*** – дистанционное обучение на курсах Европейского гуманитарного университета. Этот ВУЗ был официально закрыт белорусскими властями летом 2004 года, но продолжает существовать on-line. Да, кстати, диплом ЕГУ признают в Европе!

***www.distance.iatp.by*** – для тех, кто хочет поднять уровень владения английским языком и гуманитарными предметами в целом.

Если заинтересовались, Тпоспешите, зарегистрироваться на сайте можно только до **30 марта**!!!

ДРУГОЕ БУДУЩЕЕ



# ХВАРОБА, ЯКАЯ НЕ АДПУСКАЕ

**«ЧЕЛОВЕК НЕ МОЖЕТ ОСУЩЕСТВИТЬ СВОИ МЕЧТЫ В ДВУХ СЛУЧАЯХ: КОГДА ОНИ СОВЕРШЕННО НЕСБЫТОЧНЫ И КОГДА ПОСЛЕ ТОГО, КАК КОЛЕСО СУДЬБЫ ДЕЛАЕТ ВНЕЗАПНЫЙ ОБОРОТ, ОНИ ПРЕВРАЩАЮТСЯ В НЕЧТО ВПОЛНЕ ОСУЩЕСТВИМОЕ, ДА ТОЛЬКО ТЫ К ЭТОМУ НЕ ГОТОВ...» П.Коэльо**



***Зноў ды зноў вяртаюся да тэмы Радзімы...гэта як хранічнае захворваньне: троху адпусьціць і зноўку вернецца з новай сілай – «ты што не прыдумала яшчэ, як дапамагчы краіне?».І чаму так адбываецца: камусьці зусім не цікава, што дзеецца навокал, а ў мяне сэрца баліць, як навіны гляджу (куды сьвет коціцца?). Напэўна, так ужо гістарычна склалася, што гэтае пачуцьце, прыйшоўшае аднойчы разам з неразуменьнем ганьбаваньня роднай мовы і ўзмацнёнае потым любоўю да ўсяго беларускага, гэтае пачуцьце ўжо ніколі не адступіцца, а балець будзе з кожным вяртаньнем мацней. І праз пэўны час мяне можна будзе назваць старой (сталай?) патрыёткай...***

Надзея

Да новых разважаньняў мяне падштурхнуў успамін пра даўнюю ўжо размову. Тады, падчас спрэчкі знаёмы запытаўся ў мяне: «І што станецца, як не стане адной вядомай усім асобы? Як ты ўяўляеш будучыню?». Такое пытаньне прыводзіць у шокавы стан, прынамсі мяне тады прывяло (сапраўды, ці часта мы гэта ўяўляем? Ці можам увогуле ўявіць?).

І толькі праз колькі месяцаў да мяне дайшоў сэнс сказанага. Ні я, ні ён, напэўна, тады не зразумелі, што само гэтае нескладанае (?) пытаньне дае адказ на шматлікія складаныя (!), кшталту «Чаму колькі мы не бьемся, усё адно нічога не зьмяняецца?» ды «Што з гэтым рабіць?». А адказ гэты вельмі просты: мы не ўяўляем сабе будучыні, мы баімся яе, мы не ведаем, як гэта – вольна... Можа так яно склалася здаўна, увесь час мы «пад кімсьці хадзілі», і не нашая тут віна. Проста даўняя традыцыя. Дрэнная звычка... Старэйшае пакаленьне яшчэ жыве ў Савецкім Саюзе і «по боку» ім гэтая Беларусь са сваімі народнымі асаблівасьцямі. А маладзейшае, напэўна проста не ўяўляе, як гэта па-іншаму: я нарадзіўся – ён тут, я ў школу — і ён разам, я ва ўнівэр – і ён са мной...па жыцьці як зь лепшым сябрам!

Прызвычаіліся мы... але мы і не на такое здольныя! Беларусы – гэта такія цікавыя «жывёлінкі»: як прусы, да ўсяго прыстасавацца здольныя. На гэтую тэму добры такі анегдот ёсьць: павесілі француза – ён шыю зламаў, павесілі немца – ён задыхнуўся, а беларуса павесілі – ён жывы вісіць, дзень, другі...кажа: «ну спачатку цяжка было, а потым нічога – прызвычаіўся...» (Да-а-а, что русскому хорошо, то немцу – смерть!)

Вось так мы і жывем: ціхамірна, «только б не было войны». Дарэчы, студэнтам нават курс такі ўвялі «Гісторыя Вялікай Айчыннай», гэта, напэўна, дзеля таго, каб умелі мір цаніць (студэнцтва заўсёды было самым ненадзейным пластом грамадства). А насамрэч не вайны мы баімся, а рэвалюцыі, рэвалюцыі ў галовах сваіх, бо гэта ж заўсёды карэнныя зьмены. А якія нам зьмены, калі мы самі не ведаем, чаго жадаем, якая яна па-нашаму гэтая будучыня! Лепей ужо так, як ёсьць, пакуль з нас яшчэ ёсьць, што цягнуць, пакуль дыхаецца патроху... Толькі б не думаць, толькі б не варушыцца!

Мы нават і змагацца прызвычаіліся. Вы ведаеце, колькі людзей асноўнай працай па жыцьці маюць гэтую «халодную вайну»?(апазыцыя ў сэнсе). Але ніякай рэальнай сілы на сёняшні дзень мы не маем. А хай прыдзе той дзень, калі мы ўрэшце пераможам, і гэтыя людзі застануцца без працы, як звычайныя працаўнікі з фабрыкі.

Не, мы не гатовыя да будучыні.

Каб ведалі, чаго насамрэч мы жадаем і верылі ў тое, што таксама людзі, што вартыя лепшай долі, дык даўно ўжо выйшлі б УСЕ, не пабаяліся «памаранчовымі стужкамі»! Дык не. А раптам згубім і тое, што маем? І прыціскаем да грудзей свае 100 даляраў у месяц (з якіх 60 – за камунальныя паслугі). І такая асноўная частка насельніцтва... Так званы сярэдні кляс.

Мне здаецца праблема ў тым, што мы проста не верым у посьпех. Мы і біцца, і змагацца гатовыя, але мы самі не верым у станоўчыя вынікі. Мы не можам трошку патрымацца ды настаяць на сваім, мы баімся (як прыклад, «бессрочная забастовка» прадпрымальнікаў), мы не верым ні ў будучыню, ні ў сябе.

Канешне, можа я проста рамантык, які абчытаўшыся Каэлы, лічыць, што «только одно делает исполнение мечты невозможным – это страх неудачи». Магчыма, яно і так... Але ніхто ня здолее пераканаць мяне, што чалавек МОЖА перавярнуць сьвет!! Прынамсі свой навакольны. Ну а цэлы народ... Я добра ведаю, з якімі перашкодамі сутыкаецца апазыцыя, і што ў нашай краіне амаль не магчыма рабіць штосьці супраць, але таксама добра ведаю (веру?), што выхад ёсьць заўсёды (нават калі цябе зьелі, у цябе ёсьць два выхады), проста гэта павінны быць не адзінкі, а тысячы, галоўнае верыць.

Дзе ж мы згубілі сваю веру?

Можа харчаваньне дрэннае (на свае 100 даляраў), дык энергіі няма? Нас яшчэ ў «Контурах» вучаць, што мяса ды малочныя прадукты – гэта зло! А есьці, напэўна траву трэба ды дубовую кару...Дзякуй Богу, вось што-што, а на лясы мы багатыя!

Ну некаторым яўна не хапае патрыятызму, але тут ужо зусім іншая размова...

А можа не хапае ў сэрцах агеньчыку, запалу? Вось дзе варта ўспомніць жаночую эмацыянальнасьць! Вось дзе яна б прыйшлася да месца. Шкада, але жанчыны ня змогуць «грудью на барикады», у іх функцыя ў прыродзе іньшая: дзяцей гадаваць, ды «залізваць раны» мужыкоў, што з вайны вярнуліся. Але ж! Дзе вы, нашыя мужчыны?(Цікава, адразу адказ сам сабой: пьюць. Вось, здаецца, і яшчэ адна праблема намалявалася...)

Вось так і атрымліваецца: таўчэмся нешта, а сэнсу аніякага...

Людзі, мы ж патрэбныя адзін аднаму ды матухнезямлі! Паболей вам агеньчыкаў у вачах, патрыятызму, каханьня ў сэрцы. А галоўнае – ВЕРЫ!!!

# 25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ ВОЛІ

Калі 25 сакавіка віншуеш жыхароў нашага гораду са святам, на вялікі жаль, далёка не ўсе ведаюць з чым і навошта іх віншуюць. Праўда ёсьць і тыя, што дзякуюць, а потым доўга ідуць з думкамі, якое ж свята яны прапусцілі...

А дзень 25 сакавіка – гэта Дзень Волі, найвялікшае свята нашай незалежнасці і нашай гісторыі. І той, хто больш-менш сумленна вывучаў гісторыю Беларусі ў школе, павінен ведаць гэтую дату.

У гэты дзень была прынята Трэцяя Устаўная грамата, у якой сказана: «Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое было накінута расійскім царызмам на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай». Дзень 25 сакавіка 1918 года стаўся пачаткам доўгага і пакутнага шляху да набыцця Беларусяй сапраўднай незалежнасці.

Вядома, што у афіцыйным календары – гэта звычайны дзень, які мала чым адрозніваецца ад 5 траўня ці 17 снежня. Зараз іншыя патрыятычна-выхаваўчыя «праграмы». Як можна абвясціць аб дне, калі ўрэшце рэшт Беларусь пазбавілася расейскага падпарадкаваньня, да якога мы зараз крочым вялікімі крокамі, самі таго не разумеючы. А нам, сумленным жыхарам сваёй краіны, толькі і застаецца ў гэты дзень самостойна ладзіць сабе свята, чакаючы ад уладаў тых ці іншых перашкодаў.

Наш святы абавязак – не згубіць найвялікшую нацыянальную каштоўнасць.

Жыве незалежная, вольная Беларусь!

*А.Х.*

# ФЛЯУСЫ КАК ОНИ ЕСТЬ

***Есть в Новополоцке группа «Фляус и Кляйн», а играет в ней Новый Год (вокал, ритм-гитара), Staz (соло-гитара), Коля-ля (ударные) и Александр Мутный(бас-гитара). И нам, Макасинам, давно хотелось с ними пообщаться.***

**Макасин( Мак): Привет! Сразу дежурный вопрос: интервью у Вас часто берут?**

Новый Год (НГ): Да, часто. Вот только человечкам разъясняешь, разъясняешь много разных нюансов в подробностях, в постепенности. Вот есть главная формула, от которой ответвляются, идут своими путями другие. И человечки берут именно их, а главная у них просто уходит куда-то. Рядом с нами шла суть всего, а её никто не видел...:)

**Мак: Ребята, сначала банальности: как всё началось?**

НГ: Всё начиналось, когда остров Сенсемилья стал всё ниже опускаться под воду и всё больше начинали таять льды. И тогда образовалось несколько рек с несколькими течениями, с тремя. Одна река текла на восток, другая на запад, а третья просто вверх в образе фонтанов. Отсюда всё и началось...наверное.

Всё на самом деле не начиналось, всё просто было всегда.

Staz (Cz): Ещё начала не было. Вот потом как-нибудь спросите...

НГ: Я объясню немного эту фишечку. Вот один объект. Когда ты его видишь близким тебе, ты рассматриваешь только одну деталь этого объекта, а когда смотришь на него далёкой дальностью, видишь его весь.

**Мак: Это целая философия!**

НГ: Да нет, это не философия, это событие

**Мак: Новый Год? Почему так?**

(НГ): Прилетело само... Через форточку... Когда растут растения, чтобы не прилетали вороны, поставили чучело. И оно оказалось в Новом Году. Это тоже событие.

**Мак: Здорово играете. Вы получали музыкальное образование или это тоже само прилетело:)?**

Cz: Музыкальная школа по классу аккордеона и трубы

Александр Мутный (АМ): А я на фаготе всю жизнь играл

НГ: Я окончил школу добра...и школу, как не делать зло...

Коля-ля (К): Занимался, но были проблемы с деньгами, пришлось уйти в работу и бросить.

**Мак: Вы не стремитесь сделать коммерческий проект, получается, что играете для себя, для удовольствия?**

АМ: Нельзя играть для себя. Я бы никогда не хотел играть или вообще что-то делать только для себя. Это невозможно. Просто замыкаешься. Надо делать творчество для всех, ведь когда общаешься, не можешь всегда один разговаривать, сам с собой.

НГ: Мы по своим фазам очень разные. Каждый посвоему смотрит на дорогу. У нас даже не группа, у нас просто такая проекция

Cz: Если что-то дальше пойдёт, то, думаю, будет группа...

**Мак: Получается, что Вы сейчас группой себя не считаете?**

Cz: Почему? Считаем.

АМ: Есть просто группа «Фляус и Кляйн», а мы не группа

Cz: Да, мы не группа вообще, никто ни с кем не дружит. Серьёзно :))

**Мак: значит, ругаетесь часто и серьёзно?**

АМ: Да нет, конечно же, нет:)

**Мак: Какие у Вас планы на будущее?**

НГ: Они бывают разные...Ну, планы, наверное, такие, что мы не собираемся вскапывать землю..:) и т. д. Здорово, когда ты в одной какой-то сфере.

Cz: Мы не любим строить планы, они тогда не сбываются

**Мак: Как у команды, какая у Вас цель ?**

Cz: Надо работать над звуком

К: Если в ближайшие пару лет мы хотя бы на тот же Минск не выедем, просто надоест. Получается, играем для себя...

**Мак: Творчество всегда связано с вдохновением, а значит и с депрессией. Есть такой стереотип. Как Вы боретесь с депрессией?**

К: Это редко случается

АМ: Почему-то я всегда натыкаюсь на неё:)

К: Просто некоторые люди вызывают ответные эмоции:)

НГ: Это самый злейший враг, самый противный и отвратительный. Я тогда ухожу от него. Беру ключ, открываю дверцу, такую маленькую, незаметную...и понимаю тогда, что да! это настоящее! Там течёт бесконечность и радуги Джошуа. Вот в этой двери, когда её откроешь и посмотришь туда, сразу всё проходит...



**Мак: Staz, а у тебя депрессия бывает?**

Cz: Постоянно, всю жизнь. Я постоянно в депрессии. С ней ничего не сделаешь.

**Мак: У вас много песен за время совместной работы появилось?**

НГ: На самом деле очень много хочется рассказать... Под гитару человечки, конечно, лучше слушают. Но мы ещё на улице повествуем. Иногда это даже прекрасней намного

**Мак: Какую музыку вы сами предпочитаете?**

НГ: Мы не делаем разделения музыки. Я вот недавно зашёл к другу, и он поставил мне диск, песню. Там было про осень. Ужасная аранжировка и сковано, но человек там пел очень искренне. Мне понравилось.

АМ: Нет плохой музыки, в каждой музыке есть плохие исполнители

**Мак: Как насчёт поклонников?**

НГ: Я поклонник!

АМ: Мы – самые главные поклонники. Это 100%, потому что сами понимаем, что делаем. Да, ещё наши главные поклонники – металлисты и скинхеды..:))

**Мак: Как, по вашим ощущениям, проходят концерты?**

Cz: Не было ни одного нормального... Нет, всё с одной стороны здорово... В том плане, что концерты проходят прекрасно ...

АМ: Концерты, может, и да..:))

НГ: Всё прекрасно на самом деле. То, что хочется сказать человечкам и принести – это получается вчистую. Но иногда бывают очень редкие ситуации, когда у тебя внутри этого нет. Я немного о душевных плоскостях сейчас повествую...Я не о том, как проходят всякие обустройства, о всяких обстоятельствах, я не про это. Просто когда ты приходишь, хочется быть таким, какой ты есть в своей дороге. И это всегда возможно. Самое прекрасное, когда ты не лицемерно подходишь к таким штукам, потому что большинство человечков стремятся делать ШОУ! Я не люблю такое.

**Мак: Ребята, Вы играете 2 года, вас знают в Новополоцке...**

НГ: Это не важно

АМ: На самом деле важно, что нас сейчас приглашают. Если получается куда-то ездить, что-то записывать, не думаешь, что не хватает денег. Это просто окрыляет.

**Мак:** Да, действительно, когда видишь возможность, сохраняешь и желание идти дальше. Спасибо, ребята, за общение. Хочется, чтобы Ваша дорога была действительно долгой, а на ней встречались только события и люди, искренние по своей сути. Вы правда замечательные! Честно-честно :)

**P.S.** ***Немного впечатлений. Репетиция группы «Фляус и Кляйн» - это маленький концерт, настоящий и очень добрый. Правда, поначалу казалось, что над нами слегка издеваются :)Но это быстро прошло. Репетиция получилась на ура, сыграли много песен, вспомнили даже самые первые.***

***На самом деле Фляусы – искренние и непосредственные в общении. Да и не только в общении!***

***Ребята не согласились, что «Фляус и Кляйн» - это философия. Наверное, это стиль жизни.***

### ЛЕБЕДЗЬ

У горадзе, што спрэс спавіты дротам,
Сляпая, ад сцяны і да сцяны,
Да адзіноты мкнецца адзінота
І набывае голас драцяны.

Яна крычыць, як металічны лебедзь!..
Таварышу званю, кажу: «Як-небудзь
Спаткаемся…».
І кажа ён: «Звані», –
З уласнай адзінотай дзень пры дні.

І пуста так – як вецер дзьме трубою…
Сваю бяду рукамі развяду
І сам сябе спытаю: «Што з табою?».
Плячом пацепну.
Трубку пакладу.

### КАМЕНЬ

У камень увайсці – і ў камяні
Агонь раскласці, сесці пры агні,
Да дыму прываліўшыся спіной, –
І жыць, як за каменнаю сцяной.

### ВОЛЯ

Здабыў я ўрэшце волю на зямлі.
Сябры былі.
Каханыя былі.
Іх стала меней.
Адзіноты – болей…
І гэта ўсё, бадай, што я займеў ад волі.

### КОСЦЬ

А што твой лёс? Змаганне з
Богам?
Сабаку кінутая косць?
Недасягальнасць перамогі –
Усё, што ў гэтым лёсе ёсць.

### ДЫМ

Як дым –
зямное на зямлі;
Як тым, што і да нас жылі,
І будуць жыць пасля.

У спраты прыбярэ зямля
Наш боль, што высахне асотам,
Адчай, што згоркне палыном
І зорным змелецца млыном.

І ўсё. І тое ж будзе потым,
Як і раней, як перад тым:
Адчай і боль з крывёй і потам, -
як дым.

### АГОНЬ

Спапяліўшы былое ў былым,
Стаўшы ценямі,
зданямі,
снамі,
Мы сабе ўспамінаемся самі,
Як агню ўспамінаецца дым.

### РАДОК

Намацваць рух радка, які у зачыне,
Як шыць туман ці аблачыну ткаць…
І ўсё ж пачаць — хоць напачатку
знаць,
Што слоў, напісаных на аблачыне,
Ніколі і нікому не чытаць.

### САМАЭПІТАФІЯ

Памёр, каб не стамляць нікога:
Ні Бога,
ні людзей
і ні сябе самога.

## Уладзімір Някляеў



Паэт, празаік, эсэіст
Нарадзіўся 9.07.1946 года ў горадзе Смаргонь Гродзенскай вобласці. Пражыў дзіцячыя гады ў Крэве – знакавым месцы беларускай гісторыі.

Вучыўся ў Мінскім элетратэхнікуме сувязі (1962 – 1966), на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута (1971, г. Масква), скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута (1973).

Працаваў сувязістам на Поўначы, у Сібіры, на Далёкім Усходзе, радыёмеханікам у мінскім тэлевізійным атэлье. Заняўся журналістыкай, супрацоўнічаў у газеце «Знамя юности», рэдагаваў бюлетэнь «Тэатральны Мінск», быў старшым рэдактарам галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 1998 па 2001 – старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У 1999 выехаў у Польшчу. На прэс-канферэнцыі ў Варшаве (20.07.1999) выступіў з заявай супраць палітыкі беларускіх уладаў.

# НЕНУЖНАЯ СТАТИСТИКА

***Весна все близится и наш человеческий организм это чувствует, несмотря на снег и минусовые температуры. Кушаем фрукты (авитаминоз и все такое), начинаем выбирать в кого бы влюбиться (гормоны и их последствия:)). А у студентов весна, кроме всего прочего, проявляется и в безмятежном сне (особенно на лекциях) после всех бурных и не очень ночей. Поэтому сегодня спрашиваем: первое, что Вы делаете проснувшись?***




**1 – смотря где проснулся(лась)**

**2 – сплю дальше**

**3 – даже не знаю…**

**4 – ненавижу будильник**

Насчет ответа «смотря, где я проснулся» не удивляйтесь. Мы же не конкретизировали место сна (ну там, собственная кровать, лекция и т. д.). «Ненавижу будильник»–вполне нормально. Еще вариант: «вторую неделю каждое утро думаю, что надо поменять мелодию будильника на телефоне. Потом об этом забываю и утром опять вспоминаю»–проблема одной знакомой. Странен ответ «даже не знаю», хотя… утро всяким бывает.

## СУМНА?

• Дзве дзяўчынкі, адна добрая, а другая злая, сядзелі на даху і плявалі на людзей унізе. Злая дзяўчынка трапіла восем разоў, а добрая – дзесяць. Так дабро зноў перамагло зло!

• Новы тарыф ад МТС: МТС-ЛОХ – плаціш столькі, сколькі скажуць!

• Суседзі – гэта звычайныя людзі ўдзень і такія чмошнікі ноччу.

• «Живой уголок» – надпись на дверях кладбищенской сторожки.

• Антон Чэхаў. Ванька Жукаў. «На деревню дедушке»… Так зьявіўся першы спам.

• Выходзячы з кабінета шэфа, ён выглядаў неяк… нацягнута…

**Наклад: 299 ас.**

Заснавана ў 2004 годзе. Выдаецца на правах рукапісу.
Думкі аўтараў могуць не супадаць з меркаваньнем рэдакцыі.
Матэрыялы падаюцца на мове аўтараў.
**e-mail:** makasin@tut.by
**Інфармацыйная падтрымка:** www.psuby.com